 

Cena 60 gr Цана 60 гр.

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 48 (195) БЕЛАСТОК 29 ЛІСТАПАДА 1959 ГОДА ГОД IV

## НАВУКОВА-ПАПУЛЯРНАЯ СЕСІЯ ПРЫСВЕЧАНА ДЗЕЙНАСЦІ КПП і КПЗБ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

16 і 17 лістапада гэтага года ў Беластоку ў будынку ваяводскага камітэту Польскай аб'яднанай рабочай партыі адбылася навукова - папулярная сесія, прысвечаная дзейнасці КПП і КПЗБ на Беласточчыне.

У сесіі прымалі ўдзел дзеячы КПП і КПЗБ, якія ў міжваенны час дзейнічалі на Беласточчыне, а таксама партыйны актыў.

На сесіі былі прачытаны наступныя даклады: «Аб ідэалагічным развіцці КПП у 1918—1929 гадах» — намеснікам дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК ПАРП тав. Юзэфам Кавальскім; «Усеагульныя забастоўкі тэкстыльшчыкаў Беластока і акругі ў 1932 — 1933 гадах» — мгр. М. Карпілюк; «КПП у барацьбе за мабілізацыю сялянскіх мас супроць парадкаў у давераснеўскай Польшчы на Беласточчыне ў 1923 — 1933 гадах» — мгр. Г. Маецкім: «Аб Беларускай сялянска - работніцкай Грамадзе» — тав. Г. Анаціком.

Адкрыў і старшынстваваў на сесіі першы сакратар ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку тав. А. Лашовіч.

У дыскусіі прамоўцы адзначалі, што сесія ўнесла вялікі ўклад у вывучэнне гісторыі КПП і КПЗБ на Беласточчыне і звярталі ўвагу на неабходнасць далейшай дзейнасці ў гэтым напрамку.

Выступаўшыя на сесіі былыя актывісты КПП і КПЗБ звярталі ўвагу на неабходнасць шырэйшага чым дагэтуль выкарыстання старых камуністаў у выхаваўчай працы з моладдзю.

Добра было б, каб на гэты момант звярнулі ўвагу ў сваёй працы нашы аддзелы, гурткі, а таксама школы і часцей наладжвалі сустрэчы моладзі з былымі дзеячамі КПЗБ і Грамады. Такія сустрэчы несумненна дадуць добрыя вынікі.

Значная частка ўдзельнікаў сесіі і цяпер яшчэ, нягледзячы на гады, актыўна ўдзельнічае ў палітычным і гаспадарчым жыцці краіны.

Сесію арганізаваў у рамках святкавання 40-годдзя КПП аддзел прапаганды Ваяводскага Камітэту Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі супольна з Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК ПАРП.



Вуліца ў Банях Мазурскіх.

# МАЗУРСКІЯ ЎКРАІНЦЫ і... БЕЛАРУСЫ

Асфальтавая дарога, уючыся крутымі паваротамі паміж маляўнічымі ўзгоркамі, вяла з Галдапі ў Вэнгажэва. За акном аўтобуса прабягалі незнаёмыя для мяне краявіды. Мураваныя, чыста ўтрыманыя вёскі, паверхавыя, гарадскога выгляду дамы. Усё гэта стварае ўражанне, што людзі жывуць тут заможна і культурна.

— Вылазьмо, Грыцько, вылазьмо. Прыехалі, — спяшаючыся разбуджваў задрамаўшага сябру пажылы чалавек з шаўчэнкаўскімі апушчанымі вусамі, калі аўтобус затрымаўся ў Банях Мазурскіх. Я рыйшаў за імі.

— Прабачце, дзе мне тут знайсці некага з вашага украінскага таварыства? — звярнуўся я да мужчын. Глянулі на мяне са здзіўленнем.

— А вы, шчо, білорус? — спытаў той з шаўчэнкаўскімі вусамі.

— Ага, — кажу, — беларус.

Я і не агледзеўся, як мая рука апынулася ў шырокай, спрацаванай руцэ вусатага дзядзькі.

— З віткіль, саколіку, ты до нас? — гаварыў усхваляваны мужчына, да болю цiснучы маю руку. — Грыцько, а Грыцько! Чого ж ты стоіш стоўпом.

Мабыць захвочаны гэтымі словамі, мужчына падыйшоў і моцна паціснуў мне руку.

— Прыехаў, кажу, напісаць

(Працяг на стар. 4)

# КАЛІ ЗА ПРАЦУ ВОЗЬМУЦЦА ЖАНЧЫНЫ

— Ох, і надаелі ўжо гэтыя цэрніцы і трапалкі. Колькі сілы і здароўя аднімаюць яны сялянскім жанчынам. Давайце купім мы конную цэрніцу і трапалку, — пераканаўча гаварыла на жаночым сходзе канцавая Старчэўская. Яе падтрымалі іншыя жанчыны.

— Нам даўно ўжо трэба было згуртавацца і палепшыць нашую жаночую долю, — з закідам да сябе і іншых павышаным тонам гаварыла паважаная тут усімі Люда Мількевіч. Яе ж, Люду, кабеты выбралі старшынёй гуртка вясковых гаспадынь.

— Калі мне давяраеце, дзякую за гэта, і адначасова прашу дапамагаць у працы, і, вядома, слухацца, — сказала яна.

З гэтага дня пачала датавацца хроніка вёскі Ольшы. Было гэта восенню 1956 года. У гурток вясковых гаспадынь уступіла 17 асоб. Ужо на весну жанчыны пад кіраўніцтвам агранома садзілі капусту і іншую гародніну. Ураджай быў неспадзяваны. І гэта пераканала ўсіх, што неабходна карыстацца сельскагаспадарчай навукай. Пасля быў арганізаваны конкурс вырошчвання курэй. Жанчыны ўзялі з інкубатара 488 куранят, пад вокам заатэхніка пабудавалі куратнік, увя-

(Працяг на стар. 5)

За тры кварталы гэтага года прадпрыемствы і ўстановы на Беласточчыне безпадстаўна выдаткавалі 9 мільёнаў 211 тысяч зл.

Аб чым гаворыць гэтая лічба?

Перш за ўсё аб паніжэнні адказнасці за дзяржаўныя грошы паасобных кіраўнікоў і працаўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў. І справядліва, наша партыя на III Пленуме ПАРП паставіла перад усім грамадствам справу эканамічнага ўмацавання дзяржаўнай гаспадаркі. Калі хочам лепш жыц[illegible] а далей бестурботна адносіцца да дзяржаўнай маёмасці і фінансаў.

Ці можна планава гаспадарыць, калі расходы будуць большыя чым даходы? Зразумела, што не.

## СПРАВА ЎСЯГО ГРАМАДСТВА

Упарадкаванне эканомікі нашай дзяржавы — гэта павялічэнне вытворчасці прадуктаў харчавання, тавараў шырокага ўжытку, гэта больш пабудаваных дамоў, школ, тэатраў. Гэта ўмацаванне вартасці залатоўкі, а ў будучыні — далейшае павышэнне зарплаты кожнага з нас.

Скажаце, — ну добра. А што я асабіста магу зрабіць у гэтай справе. Я ж працую добра і сумленна.

Праўда. Большасць нашых сялян і рабочых працуе ахвярна. Рэгулярна выконваючы свае абавязкі, дапамагае дзяржаве ў рэалізацыі планавых задач. А ўсё ж, побач ёсць яшчэ шмат такіх людзей, якія часта падпілоўваюць галіны дрэў, на якіх самі сядзяць. Гэта людзі, якія стараюцца ўзяць больш ад дзяржавы, чым самі далі. Гэта людзі, якім справы пабудовы новага і шчаслівейшага жыцця ў нашай краіне чужыя.

Таму абавязак кожнага з нас дапамагчы нашай партыі, нашай дзяржаве ва ўпарадкаванні эканомікі кожнага прадпрыемства, фабрыкі ці ўстановы

 

# КАНФЕРЭНЦЫЯ НАСТАЎНІКАЎ САКОЛЬШЧЫНЫ

Інспектарат Асветы ў Саколцы склікаў на дзень 31 кастрычніка г. г. павятовую канферэнцыю настаўнікаў беларускай мовы. Зацікаўленне канферэнцыяй было на столькі вялікім, што прыбылі на яе ўсе запрошаныя Інспектарам настаўнікі.

На канферэнцыю прыбылі з Беластока прадстаўнік Куратарыі, візітатар беларускіх школ Ян Канапелька, сакратар Галоўнага Праўлення БГКТ Віктар Швед і старшыня Асветнай камісіі пры ГП БГКТ Мікола Лебядзінскі.

Адчыняючы канферэнцыю, інспектар асветы ў Саколцы грам. Ластаўскі паінфармаваў прысутных, што ў сучасны момант у Сакольскім павеце існуе 14 пачатковых школ з беларускай мовай як прадметам. Ствараюцца магчымасці ўвядзення навучання беларускай мовы ў школе ў Крынках.

Сакратар ГП БГКТ Віктар Швед у сваёй прамове звярнуўся да настаўнікаў, каб яны шырэй уключаліся ў працу Таварыства, арганізуючы ў першую чаргу культурнае жыццё ў сваёй вёсцы.

Многія настаўнікі Сакольшчыны даўно ўжо займаюцца культурнай працай, з'яўляючыся кіраўнікамі мастацкіх калектываў. Забіраючы голас у дыскусіі Генавефа Абухоўская, настаўніца школы ў Лешчанай, адзначае, што яна кіруе драмгуртком, членамі якога з'яўляецца дарослая моладзь і нават старэйшыя. Беларускі рэпертуар драмгуртка прывівае насельніцтву вёскі любоў да сваёй роднай мовы і падымае аўтарытэт беларускай мовы ў школе. Дзеці ахвотна ходзяць на ўрокі беларускай мовы, а іх колькасць з кожным днём павялічваецца. Усяго толькі двое дзяцей у школе ў сучасны момант не вывучае беларускую мову.

Настаўніца Зоя Цілюлька ў Сухенічах арганізавала сярод школьнай моладзі драмгурток і хор, які налічвае 30 асоб. Культурная праца ў школе заахвочвае дзяцей вывучаць беларускую мову.

Рэгіна Талярчык, настаўніца школы ў Горцы, арганізавала ў гэтым годзе навучанне ў школе беларускай мовы. Непасрэдныя штодзённыя кантакты з бацькамі, а таксама цікавае вядзенне ўрокаў беларускай мовы садзейнічала таму, што калі на пачатак было толькі сямёра дзяцей, якія навучаліся беларускай мове, то ў сучасны момант лік іх падвоіўся.

Надта добра выглядала навучанне беларускай мовы ў школе ў Гуранах. На ўрокі беларускай мовы хадзілі ўсе дзеці. Гэта было заслугай кіраўніка школы Язэпа Субеты. Аднак у апошні час, калі пасяліўся ў вёсцы рэпатрыянт нейкі Баравік, нягледзячы на тое, што ў хаце цэлая сям'я карыстаецца выключна беларускай мовай, ён не толькі не дазволіў сваім дзецям хадзіць на ўрокі беларускай мовы, але распачаў агітацыю сярод бацькоў, каб не пасылалі сваіх дзяцей на беларускую мову. Гэтая агітацыя дала ўжо пэўныя вынікі. Некаторыя бацькі забараняюць ужо сваім дзецям хадзіць на ўрокі беларускай мовы.

У дыскусіі выступілі амаль усе настаўнікі, якія дзяліліся сваімі цяжкасцямі і дасягненнямі ў працы. Канферэнцыя настаўнікаў беларускіх школ была надта цікавая, карысная і патрэбная. Падобныя канферэнцыі маюць адбыцца ва ўсіх паветах, у якіх існуюць беларускія школы.

Пасля заканчэння канферэнцыі па просьбе прысутных Віктар Швед чытаў свае вершы, якія прымаліся надта горача. Многія настаўнікі запрашалі Віктара Шведа на аўтарскія сустрэчы з моладдзю сваіх школ.

В. Ш.



Лапці. Якуб Анхімюк. Адрынкі, Гайнаўскі пав. (з выстаўкі народнай творчасці ў Беластоку)

# КАЛІ ЗА ПРАЦУ ВОЗЬМУЦЦА ЖАНЧЫНЫ

(Працяг са стар. 1)

лі рацыянальны корм. Маюць цяпер з іх вялікія даходы. Гурток вясковых гаспадынь арганізоўваў частыя сустрэчы з сельскагаспадарчымі спецыялістамі, якія навучылі як трэба адкормліваць свіней, як гадаваць цялят, як навесці парадак у пограбе, як у ім перахоўваць яблыкі, варэнне і г. д.

Вялікай папулярнасцю у Ольшы карыстаўся кулінарны курс. Жанчыны навучыліся смачна гатаваць страву, навучыліся пячы смачныя пірагі, рабіць торты, варэнне, а таксама смачныя фруктовыя сокі і віна.

Жанчыны з Ольшы пачалі гарнуцца і да кніжкі, зацікавіліся навейшай агратэхнікай і заатэхнікай. Вось таму яшчэ да канца гэтага года яны вырашылі арганізаваць у сябе сельскагаспадарчую бібліятэку. Пастанавілі таксама арганізаваць у сваёй вёсцы школу здароўя, дзе працаўнікі павятовага аддзела аховы здароўя з Дубровы будуць чытаць лекцыі. Тэматыка лекцый даволі цікавая, а менавіта «асабістая гігіена», «санітарная дапамога падчас няшчасных выпадкаў», «як выхоўваць дзяцей», «свядомае мацярынства» і г. д.

Ольшанскія жанчыны ўзяліся за працу, узяліся за культуру. Яны нават сваіх мужоў неаднойчы застаўляюць чытаць сельскагаспадарчыя брашуры і часопісы. Больш таго, яны не дазваляюць сеяць рукамі, не дазваляюць каб засталася на зіму незаворанай пожня. Адным словам, гурток вясковых гаспадынь у Ольшы ў поўным росквіце сваёй дзейнасці.

Нядрэнна працуюць гурткі вясковых гаспадынь і ў іншых вёсках.

У Рэшкаўцах гурток звярнуў асноўную ўвагу на чысціню і парадак у хатах, на панадворках, а таксама на асабістую гігіену. Арганізаваны тут конкурс чысціні. Паклікана камісія да праверкі чысціні, якая хадзіла па хатах і на працягу некалькіх месяцаў кантралявала, як спраўляюцца жанчыны з узятымі на сябе абавязкамі. Нават гарачым летам, падчас палявых работ, жанчыны ў Рэшкаўцах па 2—3 разы ў тыдзень мылі падлогі і старанна выціралі пыл у хаце. Самі таксама імкнуліся быць чыстымі.

Гурток сялянскіх жанчын у Ліпску мае вялікія дасягненні ў другой галіне, а менавіта, ва ўсю шыр разгортваюць мастацкую самадзейнасць. На сцэне ў Ліпску выступаюць не толькі дзяўчаты, але і старэйшыя жанчыны. Так напрыклад, Апаліна Шэпіла мае больш 50 гадоў. А яна адна з лепшых спевакоў харавога гуртка. Яна заўсёды ахвотна выступае з частушкамі.

Апрача мастацкай самадзейнасці ліпскія жанчыны арганізуюць кулінарныя курсы, а таксама курс крою і шыцця, якія карыстаюцца там вялікай папулярнасцю. Уменне добра гатаваць, а таксама пашыць неабходныя для дзяцей рэчы з'яўляецца ў жыцці немалаважнай справай.

Такім чынам, гурткі сялянскіх жанчын на Дуброўшчыне робяць шмат добрага і карыснага, павышаючы гэтым самым культуру нашага быту.

М. ХМЯЛЕЎСКІ

Аляксей Карпюк

## У МАЛАДЫЯ ГАДЫ

Стася адносілася аднолькава да ўсіх — стрымана ветліва і, здавалася, нікому не намервалася даць найбольшы кавалачак свайго сэрца. А ў групе былі бывалыя сэрцаеды. Ды ў кожнага з іх былі свае балельшчыкі. І як гэтыя балельшчыкі ні стараліся падглядзець хоць які-небудзь рэзультат, Стася была цвёрдая, як алмазік. І гэта вельмі ж інтрыгавала партызан. Бо ах як хочацца таго, чаго нельга атрымаць!..

Крыху інакш радыстка адносілася да мяне. Яна гадзінамі ўмудралася са мной не гаварыць, не глядзець у мой бок — так зацялася за абразу на аэрадроме! Не менш за хлопцаў быў зацікаўлены і я. Сэрца камандзіра таксама не каменнае, а Стася была абаяльнай дзяўчынай. Гордасць не дазваляла мне набівацца са сваімі ўслугамі, бо выглядала б, што я выкарыстоўваю службовае становішча. Ды пасля сцэны на аэрадроме мне было брыдка перад ёю. І са Стасяй я не гаварыў.

Заставалася зусім блізка да лагера. Мы набліжаліся да крыніц. Іх, праклятых, нават адзначылі на вайсковых картах. Крыніцы гэтыя перасякалі балоты ў некалькіх месцах. З крыніц зімой валіла пара, а народнае павер'е сцвярджала, што там зімуюць лебедзі. Калі б крыніцы замерзлі, мы прайшлі б ў лагер на поўдня раней. Усім так апастылеў халад, што мы згадзіліся б прайсці скрозь агонь, абы хутчэй дабрацца да цёплых зямлянак. Я па-



слаў на балота разведчыкаў, а сам павёў групу на знаёмы хутар.

Пад канец пахода спыніліся мы ў хаце.

Дыхнуўшы жылым паветрам, партызаны павесялелі і голасна загаварылі. А, перакусіўшы, слухаючы дзядзьку — гаспадара дому — некаторыя пачалі засынаць. Барадаты стары, памятаю, апавядаў тады, як у іхняй мясцовасці яшчэ ў 1863 годзе польскі паўстанец уцякаў ад царскіх войск і залез у дупло дуба. Там паўстанца казалі і застрэлілі.

Словы дзеда да мяне даходзілі нібы праз сон. Я быў цалкам заняты радысткай. Яна перад печчу моўчкі пераабувала валёнак, строга па інструкцыі трымаючы паміж каленяў аўтамат. Я на яе паўзіраўся і параўнаў з Крысяй. Мне захацелася з ёю загаварыць. Але гэта было не простае жаданне пагутарыць з чалавекам ад няма чаго рабіць. Бывала, у тыя суровыя дні яшчэ не паспею праснуцца а ў думках — Стася. Забыўся і пра небяспеку, якая падсцерагала пад кожным кустом. І асцярожна, цярпліва я даўно вартаваў выпадку з ёю загаварыць. І вось, нарэшце, гэтая хвіліна надыйшла.

— Вазьміце і вытрыце, бо адразу змакрэе! — сказаў я, падаючы анучку.

Дзяўчына анучку ўзяла, падзякавала, абыякава выцерла спатнелы аўтамат, але маўчала.

Тады я ўспомніў, што яе імя Стася, замест «малако» і «званіць» гаворыць «моо́ко» і «дзваніць». Я дайшоў да сэнсу слоў дзеда. Падумаў, што палякі ў часы небяспекі вельмі салідарныя, добрыя майстры рабіць паўстанні і наўрад хто лепш за іх умее канспіравацца. З пашанай, каб выказаць сваё спачуванне і вінаватасць, я спытаўся:

— Вы — полька?



Ды не спрыяльны час я выбраў для знаёмства. Чатыры дні пераходу на такім холадзе было занадта гэтаму дзіцяці. Нервы яе здалі, яна была раздражонай. Звычайную маю дабразычлівую цікаўнасць і спробу згладзіць сваю віну дзяўчына прыняла за абразу. Радыстка з непрыязнай гордасцю, на якую толькі была здольная гэтая прадстаўнічка польскай нацыі, успыхнула:

— Чаго вы дзівіцеся?... Два генералы Парыжскай Камуны, Дзяржынскі былі таксама палякамі! А мой тата — член ЦК польскай кампартыі, загінуў у Гішпаніі...

І Стася, відаць, ад стомы ды ад таго, што сярод чужых людзей, а яшчэ, што партызанскае жыццё не такое, якое сабе ўяўляла, расплакалася. Партызаны сціхлі, перавялі на яе позірк. Хлопцы паўзіраліся на мяне з дакорам.

У хату ўвайшлі разведчыкі.

— Камандзір, крыніцы не замерзлі! — далажыў адзін з іх.

— От, чорт!.. — вылаяліся ў хаце.

Некаторыя партызаны толькі ўздыхалі і вымоўна апусцілі вочы ў зямлю: яны б перайшлі і ўброд, каб не радыстка!

Я вачыма зняў з дзяўчыны кажушок і ўжо бачыў, як Стася вылазіць з ледзяной тоні ў прыліплай, пацямнелай ад вады гімнасцёрцы; відочная кожная складачка яе цела, як панцырак змярзаецца яе вопратка. «Не, яна гэтага не вытрымае!» — вырашыў я. Але мне ў галаву прыйшоў выхад. Я загадаў:

— Усё роўна пойдзем бродам. Пад'ём!

На балоце партызаны выламалі альховыя тычкі, паздымалі верхнюю вопратку і ўлезлі па пахі ў ваду.

(Працяг будзе)

